**Дровы,** незалежна ад аддзелу апала пры магістраце закуплены бюро мяйсцовых коопэратывау у ліку болей 5,000 саж. па цане 800 900 р. за саж.

Першая часьць гэтай пастаукі прыбывае у Менск каля 20 га лістапада.

**7 вагонау цукру і 2 вагоны з гарбатай і інш,** подлуг вестак тутэйшай чыгуначнай улады, прыбудуць у Менск не раней 20 лістапада.

**Урадовае апавяшчэньне.** З сягоняшняга дня усе азартные гульні у клюбах і іншых публічных інстытуцыях забараняюцца.

Абвінавачаные у невыпауненьні гэтага распараджэньня будуць карацца адміністрацыйным парадкам грашыма да 30,000 мр. ці турмою да 6 месяцау.

**Урадовае апавяшчэньне.** Сягоньня, 9 го лістапада, у дзень гадаушчыны дасягненьня звароту незалежнасьці Польскае Дзяржавы, дазваляецца цывільным асобам хадзіць па вуліцах м. Менску да 1-й гадзіны ночы.

*Рэдактар-выдавец*
*Ядв. ЛУЦЭВІЧ.*



## АБВЯШЧЭНЬНЕ.

Галсуны Выборчы Камітэт м. Менску гэтым даводзіць да агульнага ведама, што сьпіскі выбаршчыкау да часовай Мястовай Рады, зробленные на падставе адбытай рэгістрацыі насяленьня, згодна з артыкуламі 11 і 12 выбарчага палажэньня, ужо выстаулены у памяшканьнях участковых к мітэтау дзеле разгляду, а также і сьпіскі асоб ня маючых актыунага выбарчага права.

Згодна з артыкулам В выбарчага палажэньня, кожны сталы грамадзянін, мае право у працягу з дзен ад часу выстауленьня сьпіскау, г. з. ад 8-XI-1919 падаваць заяву аб выключэньні ці занясеньві у сьпіскі сябе ці якой нібудзь іншай асобы.

Старшыня Галоунага Выбарчага Камітэту І. Янчэускі.

8-XI-1919 г.



Друкарня Інвалідау, Менск.